Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 27. Вільня, Субота, 25-га красавіка 1925 г. Год I.

## Рашучы выбар.

У кастрычніку 1905 году, калі ўся старая Расея была захоплена рэвалюцыйным рухам і ня было дня, калі-б не адбылося ці то нападу на царскіх слуг—губэрнатараў, паліцэйскіх, жандараў, ці рабунку — экспропрыяцыі—казённых грошаў,—вядомы расейскі міністар Віттэ на пытаньне цара Мікалая: што рабіць?—даў такі адказ:

— Трэба выпрацаваць ясную праграму дзейнасьці і цьвёрда праводзіць яе ў жыцьцё. Есьць два выхады з палажэньня: або абʼявіць *ваенную дыктатуру*, сілай аружжа задушыць рэвалюцыю і вярнуць народ у даўнейшае паднявольнае палажэньне, або—*уступіць дамаганьням народу* і даць канстытуцыю.

Пасьля доўгіх нарад, у часе якіх выявілася, што цар Мікалай Крывавы схіляецца да ваеннае дыктатуры, неўспадзеўкі была вырашана другая дарога — *дарога ўступак*, бо... вялікі князь Мікалай Мікалаевіч заявіў, што дзеля ваеннае дыктатуры *не хватае войска* (яно ня ўсё йшчэ вярнулася з Манчжурыі пасьля вайны з Японіяй), дый тыя вайсковыя часьці, якія ёсьць пад рукой, *вельмі няпэўныя*, бо зложаны пераважна з пакліканых у армію запасных жаўнераў і ахвіцэраў....

Вынікам гэтага і быў маніфэст 17 кастрычніка.

Нам прыпомнілася гэтая гісторыя ня толькі затым, што сёлета мінае дваццаць гадоў ад „царскага" кастрычніка: гэныя здарэньні прыпаяло нам на памяць палажэньне, ствараўшаеся на „Усходніх "Крэсах" Польшчы,—інакш кажучы — у Заходняй Беларусі. Бо-ж якраз надовячы генарал Уладыслаў Сікорскі даў на страніцах журналу „Tygodnik Ilustrowany" раду польскаму ўраду, у істоце сваей падобную да рады цару Мікалаю, дадзенай міністрам Віттэ.

Вось даслоўна рада ген. Сікорскага:

„Упадак Польшчы, які катастрафічна разьвіваўся ў XVII, XVIII і XIX сталецьцях і кінуў нас (палякоў) у ганебнае ярмо нявbooлі,—павінен нам і ў гэтай галіне напомніць непарушныя гістарычныя праўды, выплываючыя з мінуўшчыны Польшчы, і прымусіць да зьмены дасюляшняга палажэньня на абшары ўсходніх ваяводзтваў.

„Бо-ж відавочная рэч, што, пагразшы ў аслабляючых дзяржаўную павагу партыйных змаганьнях, мы ня маем магчымасьці дагэтуль стварыць адналітную дзяржаўную праграму на Крэсах і пасьледавальна правадзіць яе ў жыцьцё, маючы ў суседзтве Радавую Расею, якая сваей лішне часта няшчырай, але вельмі спрытнай нацыянальнай палітыкай дае Комінтэрну першарадныя спосабы прапаганды;—мы-ж самі ня ўмеем пагадзіць розныя імкненьні ў грамадзянстве і стварыць адналітны плян дзеяльнасьці, без якога няма трываласьці і цягласьці якое—хоч працы.

„Стан гэты вымагае шыбкага і грунтоўнага перагляду, сьмелага вырашэньня і точнага яго выпаўненьня. Інакш усходнія землі Рэчыпаспалітай, замест прыкрываць яе ў часе міра і вайны і быць чыньнікам яе дзяржаўнае магутнасьці, могуць стварыць выгодную для ворагаў падставу дзеля злоўмышленьня, скіраванага проці дзяржавы і цэласьці яе".

Коратка і ясна: *стварыць плян дзейнасьці і рашуча яго правясьці ў жыцьцё*. Аднак, ген. Сікорскі ніводным словам не паказуе, які-ж павінен быць гэты плян: ці *вайсковая дыктатура*, ці—*дарога ўступак дамаганьням беларусаў*, дамаганьням, прызнаным у свой час *справядлівымі* прэмʼерам Сікорскім з Соймавае трыбуны—на вачох усяго культурнага сьвету.

Але тое, чаго не дагаварыў генарал у сваей стацьці, надрукаванай 11 красавіка, йшчэ раней дасказаў урад (і аб гэтым п. Сікорскі ня мог-жа ня ведаць): дасказаў *масавымі арыштамі* ў Навагрудчыне ў першых чыслах таго ж красавіка.. Аблавы сярод мірнага сялянскага насяленьня з учасьцем чуцьшто ня ўсіх родаў і відаў войск і сканцэнтраваных паліцэйскіх сіл — вось красамоўны язык, які гаворыць: Польшча мае йшчэ даволі войска, і гэтае войска йшчэ даволі пэўнае, каб ісьці дарогай *аружнага падаўленьня беларускага руху.*

Карацей; *ніякіх уступак*!

Але мы дужа сумляваемся, каб гэтая дарога, якую штодня выяўляе ўрад у сваей процібеларускай палітыцы, давяла яго да пажаданае мэты. Тыя тысячы беларускіх сялян і вясковае інтэлігенцыі, якія пабывалі ці то ў польскіх вастрогах, ці ў руках ваенных і паліцэйскіх загоншчыкаў у часе аблаваў, што з Наваградчыны патроху перакідаюцца і ў другія беларускія ваяводзтвы, — гэтыя тысячы моʼ мала сьвядомых дагэтуль беларусаў ужо *ніколі, да апошняга дня жыцьця свайго, не забудуцца, што яны беларусы.* Хваля распачатых масавых рэпрэсій нікога і нічога ня зьменіць. Наадварот: *і беларуская нацыянальная сьвядомасьць, і апазіцыйны настрой у масах ад гэтага толькі ўзрасцуць і ўзмацуюцца. А наша сіла, наша нязьнішчальная моц*, якая — мы крэпка верым — ператрывае часы ліхалецьця, *якраз і імення ў нашай сьвядомасьці, у разбуджаным нацыянальным пачуцьці беларускае масы.*

I як-бы пасьледавальна ні праводзіўся — па рэцэпту ген. Сікорскага — гэты плян барацьбы з беларусамі дарогай рэпрэсій, яму *„ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць" беларускага руху ня ўдасца.*

I, з вераю ў гэта, мы клічам наш народ на кожную новую рэпрэсію адказваць *цясьнейшым гуртаваньнем сваіх сіл і творчай культурнай і эканамічнай працай*, бо гэта—нязьнішчальная падстава нашае будучыны, нашае канчатковае *перамогі.*

## Водгукі катаваньня вучняў Віленскае Беларускае Гімназіі.

У сваім часе беларуская апазіцыйная прэса пісала аб катаваньні дзяржаўнай паліцыяй вучняў Віленскае Беларускае Гімназіі Кузьмы Янэля і Лявона Баброўіча; сёньня-ж, даведаўшыся аб тым, што **тры паліцыянты, катаваўшыя іх, прызналіся да гэтага ў сьледчага судзьдзі і цяпер сядзяць арыштаваныя на Лукішках**, зьвярнуліся мы да Дырэкцыі Гімназіі з просьбай даць нам больш дэтальныя дадзеныя ў гэтай справе.

Аднак, Дырэкцыя Гімназіі новых дадзеных у гэтай справе, як аказалася, ня мае, але затое паказала нам надта цікавы дакумэнт, падпісаны за дэлегата ўраду п. Дваракоўскім 7/XI. 1924 г. № У. 9649, наступнага зьместу:

„Пану Дырэктару Віленскае Беларускае Гімназіі, Вільні, Вострабрамская вул. № 9. У сьлед за пісьмом маім № У. 7877 з 15.IX. г. г. паведамляю, што загаданае Урадам Дэлегата Ураду праз адумыслова выдэлегаванага ў гэтай мэце адміністрацыйнага ўрадоўца, сьледзтва ў справе „rzekomego" біцьця ды катаваньня вучняў Беларускае Гімназіі Янэля і Баброўіча **не падцьвердзіла фактаў, інкрымінаваных працаўнікам дзяржаўнае паліцыі ў Дунілавічах і Мядзёлі.**

„Агледзіны Кузьмы Янэля, даконаныя з майго даручэньня ўрадовым доктарам, сьцьвярдзілі, што ў памянёнага слух не аслаблены; што-ж датычыць дзіркі ў барабаннай балоне левага вуха, то яна паўстала не ад прабіцьця, а з прычыны перанесенае хваробы (напр. грыпы, злучанай з запаленьнем сярэдняга вуха).

„Зазначаю, што акты сьледзтва перасланы п. Пракурору Віленскага Акружнага Суда".

Што-ж цяпер скажа п. Дэлегат Ураду ў абароне паліцыйных катаў?

Добрых, відаць, адміністрацыйных урадоўцаў і дактароў мае п. Дэлегат Ураду, нечага сказаць! Ані „rzekomego" біцьця ды катаваньня ня было, ані слух у дзіцяці не аслабеў, (толькі яно стала дрэнна чуць), а што датычыць дзіркі ў барабаннай балоне, дык гэта ад хваробы (нейкае грыпы, ці якое іншае трасцы, толькі не ад біцьця паліцыянтамі по вуху!).

А што-ж урадовы доктар скажа тады, калі мэдыцынская карта, якую мае кожны вучань школы, зложаная ў канцы школьнага году, г. зн. **за пару месяцаў перад катаваньнем**, ня выкажа такіх дзірак у вусе Янэля, а паказаньнямі сьведкаў усталена будзе, што і ў працягу апошніх двох месяцаў ён на ніякія хваробы не хварэў?

---

Вядомы францускі пісьменьнік Роні Старэйшы напісаў па асобаму заказу рэдакцыі газ. „Kur. Warsz." артыкул, у якім, паміж іншых, зьмешчаны гэткія, вельмі характэрныя для адносінаў Францыі да Польшчы, „кампліменты":

„У-ва ўсіх абставінах Польшча заўсёды высоўвала на першае мейсца **свой абавязак** адносна да Францыі (!)... Мы ня ведаем сымпатыі, аднолькава **вернай** і моцай, як—Польшчы да Францыі"...

„На выпадак вайны з Нямеччынай мы можам рахаваць на падтрыманьне 30 міліёнаў палякоў" (?!).

„Апрача таго і матэрыяльнае багацьце Польшчы ўсё расьце... **Дык гэты народ здольны весьці вялікую вайну**"...

Трэба быць фрацузам, каб з такой клясычнафранцускай яснасьцю і з такім клясычна францускім эгаізмам выразіць запраўдны зьмест адносінаў францускага сюзэрэна (магната) да польскага васала (падпанка)...

Цікава і гэтае „ўяўленьне" думкі аб новай „вялікай вайне", да якой рыхтуюцца абодва галоўных рыцары жэнеўскага мірнага „пратаколу"....

# Аб беларускай інтэлігенцыі

*(адрывак з Мэмарыялу „Віленскага Бюро Палітычнай Працы).*

У часопісі „Przegląd Wileński“ зьмешчаны адрывак з Мэмарыялу, пададзенага групай віленскіх краёвых палякоў-дэмакратаў, згуртаваных у т. зв. „Biuro Prac Politycznych“. Падаем з гэтага адрыўку найцікаўнейшае.

„Аднэй з галоўных прычын няўдачы польскай „państwowości“ на Усходніх абшарах зьяўляецца доктрына (моцна ўбітая ў галаву думка, ці ня крытычная тэорыя), якая не прызнае асаблівасьцяў гэтых абшараў і іх розьніцаў з землямі чыста польскімі, дый ня прыймае пад увагу асаблівых патрэбаў іх інапляменнага насяленьня.

„Добра ведамы ўсім „акляпаныя“ гутаркі аб недахваце нацыянальнай і палітычнай сьвядомасьці ў „тутэйшых“ масаў, якія (быццам) ня выходзяць па-за межы найпрымітыўнейшых (найпрасьцейшых) праяваў пляменнага пачуцьця і сувязі з гэтай зямлёй, і—аб быццам штучным буджэньні гэтай сьвядомасьці кучкай агітатараў, якіх звычайна падазраваюць у варожай (да Польшчы) дзеяльнасьці—пад уплывам Бэрліну ці Масквы.

На гэтай (быццам) штучнай агітацыі, на нязначнай колькасьці інтэлігенцыі ў беларусаў, на пасыўнасьці (?) масаў і будуецца ведамая добра праграма асыміляцыі гэтых зямель—спольшчаньня іх насяленьня—шляхам душэньня ўсялякіх праяваў самастойнага нацыянальнага жыцьця гэтага пляменьня (народу?!) і накіданьня гэтаму жыцьцю польскіх форм...

Гэтая сьляпая нацыяналістычная дактрына,— кажуць аўтары Мэмарыялу, —ня ведае фізычнага закону, які мае сілу і ў псыхічным сьвеце, што кожная дзейнасьць выклікае ўраз-жа роўнай сілы проці-дзейнасьць.

Дык за гэтую будзячую і агітуючую масу — лепш за ўсялякіх агітатараў—нацыяналістычную работу палякоў можна з пункту гледжаньня ўзросту і паглыбеньня нацыянальнай сьвядомасьці — толькі падзякаваць... — Як гэта ні дзіўна, але запраўды—прымус, уціск, гвалт над духам — толькі вызваляюць, толькі ўзмацняюць, толькі гартуюць яго... А перадусім — нацыяналістычны прымус і гвалт будзіць зо-сну сілу пачуцьця сваей нацыянальнай асаблівасьці ў народзе...

„Дык вось тут заўсёды пераацэніваюць значэньне гэтай пасыўнасьці масаў; але з другога боку—недаацэніваюць сілы гэтай нязначнай і нячысьленай інтэлігенцыі. Душой грамадзянстваў і выражэньнем іх імкненьняў заўсёды зьяўляецца інтэлігенцыя—незалежна ад багацьця духоўных ці фізычных сілаў, якімі яна багата. Незалежна ад ступені сьвядомасьці і культуры масаў, інтэлігенцыя гэтая заўсёды знойдзе шлях і спосаб, каб дайсьці словам да душы і патрэбаў таўпы і выкарыстаць яе прыспаную энэргію дзеля сваіх (?) мэтаў, часта адчуваных народнай масай паўсьвядома-туманна-пачуцьцём...

„Дык патрэбаў гэтай інтэлігенцыі ня можна лёгкаважыць, бо—ня гледзячы на „пасыўнасьць“ масаў—у рэзультаце гэтыя патрэбы інтэлігенцыі зьяўляюцца маторам—пхаючай уперад сілай грамадзянстваў, хоць-бы яны стаялі нават на першабытным роўні разьвіцьця“.

„А ў нас духоўныя і культурныя патрэбы — як беларускай інтэлігенцыі, таксама і беларускіх народных масаў—зусім і перадусім ігнаруюцца.

Ня істнуе амаль ня зусім—з прычыны перашкодаў з боку дзяржаўнай улады — беларускае пачатковае школьніцтва і — няма магчымасьці разьвіцьця яго—з прычыны адсутнасьці вучыцельскай сэмінарыі.

З найстрашнейшымі труднасьцямі, гранічучымі з убожствам, змагаецца беларуская сярэдняя школа, пазбаўленая права публічнасьці і права даць сваім гадунцам доступ у польскія ўнівэрсытэты.

Ня кажам ужо аб вышэйшай школе, ці хаця-б аб катэдрах беларусазнаўства ў польскіх унівэрсытэтах.

Нячувана плыткая і каротка-зрочная думка,— што, робячы немагчымым атрыманьне ў Польшчы сярэдняга і вышэйшага ўзгадаваньня ў нацыянальна-беларускіх формах,—тым самым будзе спынены ці прыпынены прырост беларускай інтэлігенцыі, ці будуць прымушаны беларусы ў Польшчы прыняць польскую культуру, — у рэзультаце дае тое, што імкненьне да асьветы ў беларускіх масах, хаця і з трудом, знойдзе выхад сярод ня толькі чужых, але і найбольш варожых нам (палякам) народаў“.—Бо-ж „беларуская моладзь едзе ў Прагу, дзе чэхаславацкі ўрад дае спэцыяльныя стыпэндыі для беларускіх студэнтаў, якія ў Польшчы ня могуць атрымаць вышэйшай асьветы; едзе ў Латвію, едзе ў Менск, дзе за кардонам паўстае „дзяржаўная Беларусь“ (чаму чужаслоў?), дзе беларуская школа акружана найбольш энэргічнай аховай з боку дзяржавы і стараецца узгадоўваць інтэлігенцыю ня толькі на свае ўласныя патрэбы, але перадусім—на экспорт (на вываз)—дзеля шырэньня лёзунгаў сацыяльнага перавароту і адарваньня Заходняй Беларусі ад Польшчы“...

„Эканамічныя лёзунгі (зямельны голад) зьліваюцца тутака з нацыянальнымі, творучы адзінае цэлае—пад уплывам інтэлігенцыі, патрэбы якой зусім зьняважаны, якую ў Польшчы зьвялі да ролі сталага безрабоцьця, зачыніўшы перад ёй усякія шляхі да дзяржаўнай і культурнай, а нават эканамічнай працы, якая сілаю рэчаў кінута ў масы—дзеля агітацыі —у гэтых варунках, ведама, некарысных для ўзмацаваньня ў ёй ляяльнасьці да Польскай дзяржавы“...

„Даволі сказаць, што, напрыклад, вучыцялі беларускіх гімназіяў змушаны дарабляць на жыцьцё—начной працай, як наборшчыкі“...

„Дык дзіва, **што сярод беларускай інтэлігенцыі амаль-што няма зусім людзей з польскай орыентацыяй.** Тыя, што асталіся, як яны кажуць,—„вернымі заходняй орыентацыі“, ня могучы пагадзіцца з бальшавізмам,—страцілі ўсялякую веру ў магчымасьць дайсьці да паразуменьня з Польшчай. **Няма цяпер ужо аніводнай палітычнай партыі, якая-б бачыла будучыну свайго народу, апіраючыся на Польшчу.**

(Слухайце, пане „доктар“ Павлюкевіч!).

„Дык і ня будзем пацяшаць сябе тым, што масы беларускія—пасыўныя і несьвядомыя. Глухі гоман нездаваленьня шырыцца ўсё моцней...

Труднасьць барацьбы з бандытызмам ляжыць у значнай меры ў антыпольскіх і антыдзяржаўных настроях масаў. А што гэтая нячысьленая інтэлігенцыя ўмее дайсьці да душы гэтых быццам пасыўных масаў, сьведчаць аб гэтым рэзультаты выбараў у Сойм, якія ў будучыні дадуць нам (палякам) яшчэ больш пераконываючыя довады“...

Усе гэтыя думкі высказаны і перасказаны беларускай прэсай тысячы разоў...

Патроху, відаць, разумнеюць польскія галовы беларускім розумам... Шкада толькі, што **розум** тых, што гэта ўсё зразумелі, ня мае ані крыхі **волі і ўлады**, каб зьдзейсьніць свае думкі. Але тыя, што маюць волю і ўладу — безнадзейна пазбаўлены... розуму!

# Беларускі працэс у Латвіі.

*(Ад нашага карэспандэнта).*

### Трэці дзень.

Трэці дзень быў самы важны і самы рашучы: разгляд істотных доказаў. Паказаньні сьведкаў не далі абвіненьню ніякага матэрыялу, і пракурору асталіся толькі матэрыяльныя доказы.

Першае абвінавачаньне было ў тым, што таварыства „Бацькаўшчына“ ў Латгаліі бярэ пачатак і атрымлівае дырэктывы ад менскае „Бацькаўшчыны“, дый што статут, паводле якога працуе латгальская „Бацькаўшчына“, быў быццам-то друкаваны ў Менску. Выхадзіла, быццам іменна латгальская „Бацькаўшчына“ і ёсьць тая „праступная арганізацыя“, якая пастанавіла адарваць ад Латвіі Латгалію—мусіць, каб далучыць яе да Менску, дзе друкаваўся статут. Але тут, паміма недаказанасьці гэткае думкі пракурора, выйшла йшчэ і такая пацеха: падсудны Езавітаў зьвярнуў увагу суда на тое, што статут быў надрукаваны ня ў Менску, як гэта прост **выдумаў** пракурор, а ў **Коўні**, што **надрукавана на самым-жа статуце**. Гэта зусім разьбіла першае абвіненьне.

Далей — пражская канфэрэнцыя, якая быццам-то арганізоўвала сілы дзеля такога адарваньня Латгаліі, ад якое выйшлі адпаведныя „праступныя“ дырэктывы. Абарона выясьніла, што ў рэзалюцыі культурнае сэкцыі канфэрэнцыі зьмешчана зусім процілежнае!

Далей—карта Беларусі, выданая ў Вільні ў 1918 годзе, аб „праступнасьці якое гэтак многа гаворыцца ў працэсе. Выясьнілася, што карта была надрукавана задоўга да таго, як былі ўстаноўлены граніцы Латвійскае рэспублікі. Падобна-ж была разьбіта на судзе і „праступнасьць“ учэбніка геаграфіі А. Смоліча. Абарона прадставіла суду расейскі ўчэбнік геаграфіі Новоселова, надрукаваны ў Латвіі і дапушчаны міністэрствам асьветы ў-ва ўсе школы, дзе аб падзеле Беларусі гаворыцца тое самае, што і ў Смоліча, з тэй толькі розьніцай, што фраза Смоліча: „разрэзана па жывому целу“ заменена ў расейскім учэбніку проста словам „разрэзана“, а замест слоў „Латвія атрымала“ частку Беларусі сказана, што гэная частка „апынулася ў межах Латвіі“. Пры гэтым абаронцам прышлося даказываць, што слова „атрымала“ ня значыць парасейску „отторгла“, а „получила“.

Многа гаварылі на судзе і аб журнале „На Чужыне“, надрукаваным у Рызе. Дый ізноў аказалася, што ў ім нічога праступнага няма. Мала таго: тамака зьмешчана афіцыяльнае прывітаньне ад міністра загранічных спраў Латвійскае рэспублікі на імя Езавітава, у якім міністар жадае працьвітаньня Беларускай рэспубліцы! Выходзіла, лягічна разважаючы, што і міністра Мэеровіца трэба хіба пасадзіць на лаву падсудных—побач з Езавітавым....

Але цэнтральным пунктам абвіненьня былі ўзятыя пры вобыску ў Краскоўскага пісьмы Цьвікевіча і Крэчэўскага, у якіх ішла гутарка аб адзіным беларускім фронце: Вільня—Прага—Коўна—Дзьвінск—Амэрыка. Тут абвіненьне, здавалася, і знайшло ўрэшце гэную знамянітую тайную „праступную арганізацыю“, якога рупліва шукаў пракурор і ня мог нідзе знайсьці. На гэтым пракурор галоўным чынам і пабудаваў сваю абвініцельную прамову, націскаючы перад усім на падсуднага Краскоўскага.

Прамова пракурора, паводле слоў саміх-жа рыжскіх адвакатаў, была мастацкая! Ня маючы ніякіх канкрэтных матэрыялаў, пракурор з гэтых немагчымых даных зрабіў нешта магчымае.

Сьпярша пракурор затрымаўся на паказаньнях сьведкі Олінша. Стараючыся разьбіць гэтыя паказаньні, ён пачаў з характэрыстыкі падсудных, якія па сваей мінуўшчыне і па сваей грамадзкай працы зьяўляюцца ня проста нацыянальнымі культурнымі работнікамі, а выдатнымі палітычнымі дзеячамі. Езавітаў—былы прадстаўнік Беларускае Рэспублікі ў Рызе, арганізатар і камандзір палка беларускае арміі; Якубэцкі—б. камандуючы беларускае арміі; Краскоўскі, аб якім гэтак добра гаварыў Олінш,—б. старшыня віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту, цэнтру палітычнага жыцьця Заходняе Беларусі. Пры гэтым пракурор ядавіта адзначыў, што, хаця тут шмат гаварылася аб заходнім кірунку палітыкі Краскоўскага, аднак, Польшча, якую ён быў прымушаны пакінуць,—гэта-ж Захад..

Спрытна зьвязываючы пасрэдныя ўлікі, асьцярожна абыходзячы небясьпечныя мамэнты, якіх для абвіненьня было лішне многа, зваліваючы, як гэта пасьля выясьніла абарона, у адну кучу культурна-асьветную, нацыянальную і палітычную работу,—пракурор улажыў прамову, якая зрабіла сільнае ўражаньне. І вагі Тэміды як-быццам пачалі скланяцца ў бок абвінавачаньня...

Але тут выступіла абарона, і абраз зразу зьмяніўся.

### Абарона.

З абароны першы прамаўляў дэпутат латвійскага Сойму і былы міністар справядлівасьці Гольцман. У бліскучай, разумна лягічнай, натхнёнай прамове Гольцман, як палітык-мастак, знамяніта нарысаваў палітычны бок працэсу ў-ва ўсей яго глыбіні. Ці з пункту гледжаньня латвійскае палітыкі ідэя незалежнай Беларусі—праступная?— Не! Ня толькі не праступная, але яе трэба вітаць. А пытаньне аб граніцах, калі незалежная Беларусь будзе істнаваць, вырашыцца мірна і дружна. У працягу дзьвюх гадзін Гольцман зусім разьбіў усе абвінавачаньні пракурора—перад усім у адносінах да Езавітава і Іванова (якіх ён бараніў), дый адносна да агульных падставаў абвіненьня.

Пасьля яго выступіў адвакат Шмідт. Ён пачаў з пытаньня: хто сядзіць на лаве абвінавачаных? Сядзяць тыя, што горача любяць свой народ і аддаюць сябе дзеля працы для яго. Яны лятуцелі аб поўным нацыянальным адраджэньні свайго народу. Перад іх стомленым духовым зрокам паўставала, як міраж, як фата-моргана, прыгожае лятуценьне—ідэя дзяржаўнае незалежнасьці іх народу, падтрымліваўшая іх у цяжкай вандроўцы ў пустынях буднае нацыянальнае работы.—Хораша, з вялікім пад'ёмам гаворыць Шмідт аб сьвятасьці і велічы пачуцьця любві да бацькаўшчыны, аб нацыянальнай дзеяльнасьці бароненых ім Краскоўскага, Пігулеўскага, Мядзёлкі, Якубецкага, ды таксама і Езавітава і Іванова, уся віна каторых толькі ў тым, што яны — „вялікія патрыоты“. Далей ён вельмі тонка і лягічна разьбівае тасаваньне да падсудных арт. 102 і ў жывой, абразовай форме шукае гэнае неўлавімае „праступнае арганізацыі“, аб якой так многа, але так туманна гаварыў пракурор. Разгледзіўшы матэрыяльныя доказы абвіненьня, ён лягічна даходзе да яснага вываду, што ні аб якой „праступнай арганізацыі“ ня можа быць і гутаркі.

Трэцім выступіў дзьвінскі адвакам Будоўскі. Дзелавіта, спакойна і пераконываюча разглядаў ён абвінавачаньне пракурора, умела і вельмі разумна карыстаючыся паказаньнямі сьведкаў. Сваю стройна-даказальную прамову Будоўскі заканчывае заявай, што іменна гэтая любоў да свайго народу, за якую судзяць яго падсудных (тых, аб якіх гаворыць і Шмідт),—іменна яна і прадстаўляе той непарушны фундамант, на каторым будуецца магутны гмах кожнае дзяржаўнасьці, у тым ліку і Латвійскае.

Пасьля магутнага і сьветлага ўражаньня ад гэтых трох прамоваў, выслуханых усімі з захопліваючым зацікаўленьнем, нейкім прыкрым дысанансам здалася жаласьлівая прамова чацьвертага абаронцы, які бараніў „прыпадковага“ падсуднага Жэрдія. Адвакат гэтага падсуднага, пазываючыся на паказаньні сьведкаў Жэрдія, даводзіў ( — гэта была бясспрэчная праўда), што падсудны Жэрдій ня мае нічога супольнага з рэштай абвінавачаных, што недалучыўся да беларускага руху выключна, як безработны інтэлігент, што прыехаў не з Літвы, як другія, а з Масквы,—інтэлігент, незнаёмы з дзяржаўнай латвійскай мовай, - далучыўся ня ў імя ідэі, а выключна дзеля куска хлеба. У вачах суда і публікі фігура Жэрдія была правільна прадстаўлена, як нешта гадкабязыдэйнае, нікчэмнае.

### Апошняе слова падсудных.

Першы прамаўляў падсудны **Езавітаў**, які каля году прасядзеў у вастрозе, чакаючы суда. Вось яго словы:

„Грамадзяне Судзьдзі, мне дужа цяжка апраўдацца „на—істоце“, созводімых на меня гр. Пракурорам абвінавачаньняў, бо ніякае „*істоты*“ ў іх няма.

— Слухі, плёткі і згадкі.

Цяжка, ды і няўдзячная задача, ваяваць супраць плётак і чутак.

І я ваяваць з імі ня зьбіраюсь.

Не хачу я спыняцца таксама: на тых няточнась-

# ХРОНІКА.

**Да аблавы на людзей у Наваградчыне.** „Dz. Wil." падае падробнасьці аб тым, як зроблены былі аблавы „на дывэрсыйныя банды" ў Наваградчыне. У палове лістапада паліцыя ў Наваградчыне напала на сьлед бальшавіцкай акцыі—у напрамку стварэньня на тэрыторыі ваяводзтва дывэрсыйных бандаў—дзеля нападаў, якія павінны былі ўзнавіцца на вясну. Калі ўсё было добра высачана, тады пад відам манэўраў былі сьцягнены на намечаныя абшары ваяводзтва вялікшыя атрады войска, якія разам з паліцыяй адначасна ў розных мясцох пачалі рабіць аблаву...

Аблава дала, як піша газэта, „надспадзяваныя рэзультаты": знойдзена маса камуністычнае літэратуры, перапіска з Менскам, аружжа і г. д.

З усіх арыштаваных 360 затрыманы і перасланы ў Вільню—да пракурора.

Але пры чым-жа тут беларускія культурныя работнікі, вучыцялі і дэклярацыі аб беларускай школе?

**„Аблава на камуністаў у Вільні".** Тая-ж газэта піша, што ў часе суботніх масавых вобыскаў у Вільні, якія таксама пачаліся з беларускіх культурных установ, — „на жаль, 150 обыскаў далі **толькі 60 затрыманых асоб**, якія аддадзены дзеля сьледства судовай уладзе". „Камуністы былі, відаць, прыгатаваныя".

Калі ўсе, у каго рабілі вобыскі, былі такімі-ж „камуністамі", як Беларуская Кнігарня, ці другія беларускія культурнікі, дык ім і „прыгатаўляцца" нечага было! Дарэмна была „праца" ахранкі!

**Замахі на цягнікі.** 6 красавіка між Годуцішкамі і Лынтупамі на рэльсы перад пасажырскім цягнікам былі пакладзены тэлеграфныя слупы. Машыніст сваячасна ўгледзіў небясьпеку.

9 красавіка тое-ж самае здарылася на чыгунцы між Глыбокім і Каралеўшчынай. Машыніст таксама сваячасна затрымаў цягнік.

**„Беларуска-украінская канфэрэнцыя" ў Вільні.** Некалькі дзён таму назад галава „казённых беларусаў", „доктар" Павлюкевіч, ня маючы мандату нават ад „сваей" Часовай Рады, езьдзіў на канфэрэнцыю да галавы „казённых украінцаў" п. Оскількі. Пэўна ж, п. Оскілка не пашкадаваў выдаткаў (на рахунак п. львоўскага ваяводы!), каб добра і шчыра, па старапольску, угасьціць маючага, здаецца, добры апэтыт і заўсёдную смагу, п. Павлюкевіча... Дык ці-ж бы той меў астацца ў даўгу перад п. Оскілкай і не запрасіць — на гэткую-ж самую „канфэрэнцыю" (балазе, таксама на „казённы" кошт!)—галаву украінскіх наймітаў да Вільні?!

Вось у гэтым тыдні, як пішуць газэты, і мае адбыцца ў Вільні (ў „Брыстолі" ці ў „Зацішу"?) украінска-беларуская „канфэрэнцыя" „украінскай народнай партыі" і „Тымчасовай (пакуль плоцяць пэнсію...) Беларускай Рады". Канфэрэнцыя мае цягнуцца 3—4 дні...

Асабліва ўрачыста абвясьцілі аб гэтым „важным" здарэньні, ведама, польскія эндэцкія газэты...

**Зямная нагрода манаху.** Міністар „рэлігіяў" п. Ст. Грабскі (найзаядлейшы польскі нацыяналіст і каталіцкі клерыкал), падараваў—коштам скарбу—быламу рэктару Віленскай Праваслаўнай Сэмінарыі archim. Filip'у тысячу злотых—у нагараду—„за заслугі перад айчызнай (п. Ст. Грабскага?).

Здаецца, толькі адзін arch. Filip з усяго праваслаўнага духавенства на „Крэсах" атрымаў гэткую адзнаку асаблівай, калі не пашаны (бо хто-ж шануе таго, каму за „заслугі" можна заплаціць грашмі?!), дык — удзячнасьці з боку сучаснага польскага ўраду Тугутта-Грабскіх. Галоўная-ж „заслуга" arch. Filipa, ня кажучы аб драбнейшых,— ведамы ўсім: гэта—пададзены ім, як рэктарам Сэмінарыі, праект увядзеньня ў яе польскага языка, як выкладовага.

Дык можна сказаць, што 1000 злотых на'т—ня дорага... У кожным разе—цікава і характэрна для нашых часоў гэтая цынічная грашавая „нагарада"—на жыцьцёвы камфорт—манаху, які прысягаў, здаецца, шукаць скарбу не „на зямлі, але на небе?...

# Карэспандэнцыі.

## Закон 7/I—25 г. аб школьніцтве на мясцох.

(*Слонімшчына*).

Кінуўшы паверхнасны пагляд на нашую школьную кампанію на мясцох,—адны—з больлю ў сэрцы ўбачаць адсутнасьць у нашага селяніна грамадзкае сьвядомасьці, а другія будуць радавацца гэтаму. Але як адны, таксама і другія ня ведаюць тых варункаў, у якіх знаходзіцца наш селянін. Я маю на відоку нашае школьніцтва і толькі аб ім і буду гаварыць.

Закон аб падачы дэклярацыяў увайшоў у моц 7/I—25 г., але, ня гледзячы на гэта, беларускія вёскі яшчэ з ім доўга былі незнаёмы. Адзіная крыніца дзеля пазнаямленьня з ім—беларуская газэта. Але тут— з аднаго боку зруйнаваньне праз вайну, а з другога палітычныя рэпрэсіі (перасьледаваньні) ліквідуюць і гэтую крыніцу. Ня толькі тыя, што дастаюць газэты, але нават і тыя, што іх чытаюць, запісаны ў паліцыі.

Часта бывае, што ўся вёска, у якой знойдзецца сьмяльчак выпісаць беларускую газэту лічыцца „неблагонадёжнаю". Бесканечныя вобыскі і арышты і канфіскацыі беларускае літэратуры да-таго стэрарызавалі люднасьць, што ў апошняй зусім апусьціліся рукі, і кожны думае лепей не зачапаць асінага гнязда. Яшчэ ня было ніводнага выпадку, каб пры вобыску не сканфіскавалася беларуская літэратура. Гора селяніну, а яшчэ горшае галоднай абарванай інтэлігенцыі! На кожнага такога пакутніка прыпадае колькі чалавек паліцыі, а ахранка за грошы купляе сабе вушы сярод жыхароў вёсак.

Ведама,—добры чалавек ня пойдзе на гэтую работу, а пойдзе толькі той, хто страціў сумленьне — брахун, п'яніца і т. п., якія адно і знаюць, што чым балей будуць брахаць, тым большая будзе іх грашовая вартасьць.

Перайду цяпер к гэтым шмат-пакутным дэклярацыям. У нас, здавалася б, справа павінна была пайсьці, як па маслу, бо чуць што ня кожная вёска мае газэту. Так яно зразу і было. Заварушыліся ўсе—і старыя, і маладыя, і ўдовы—і пасыпалі ў самае распуцьце да гміны за 10—15 вярстоў. Дык ня кожнаму ўдалося дастаць найдаражэйшую подпіс pana wojta. Некаторыя хадзілі разы па тры, і ўсё дарма. Чаго добрага, ня ведаюць нашы войты, а як тое—калі ён забракуе адну-дзьве дэклярацыі, то ўсё-ж такі можа будзе дзетак ня 40, а 39. Многа перашкодзілі падачы дэклярацыяў і апошнія арышты. Арыштоўвалі найчасьцей тых, хто быў зьвязаны з дэклярацыямі. Часта на дапросах пры арыштах ставілі першае пытаньне: „по co? pan nie zajmuje się żadnym głupstwem?" — Якім гэта глупствам, паночку? — „No, pan nie stara się o szkółki białoruskie?".

Далей, ня ведама хто распускае слухі, што ўвосені і без дэклярацыі будуць вучыць пабеларуску.

Усім гэтым люднасьць да таго запужана, што, калі некаторыя вёскі і перамаглі ўпорства войтаў, дык ня знойдуць чалавека, які даставіў-бы дэклярацыі школьнаму інспэктару.

Трэба сказаць некалькі слоў і пра вышэйшую ўладу. Час ляціць. Хоць ня многа, а ўсё-ж такі на колькі сотняў беларускіх школ дэклярацыяў знойдзецца. Цікава, каго нам паставяць вучыцелямі? Тысячы вучыцялёў-беларусаў ясна, як Божы дзень, будуць забракаваны нястачаю кваліфікацыі, хаця яны радзіліся—выраслі і цяпер жывуць у беларускіх сем'ях, гдзе, апрач беларускага, ня ўжываецца ніякі другі язык. Праўда, падгатоўка патрэбна, але такі дарагі час прападае марна.

Нават Былгошчанскія курсы (хоць мы іх і не шкадуем, — бо гдзе-ж то відана, каб хто езьдзіў на практыку нямецкага языка ў Кітай), і тыя ўрадам пахаваны, ня кажучы ўжо аб віленскіх.

Як урад напраўду хоча зрабіць што-небудзь карыснае для нашай асьветы, то няхай летам з'арганізуе курсы праз Школьную Раду для беларусаў вучыцялёў, а народу дасьць свабодна выбіраць ці польскую, ці беларускую школу; інакш мы будзем лічыць, што ўсё гэта робіцца не для нас, а для заграніцы, а наш селянін ад гэтага нічога добрага не дастане. Будзьце перакананы, што беларускае культуры не зьліквідуеце і не заглушыце, аб гэтым яскрава сьведчыць наша вёска.

**Невядомы.**

## Хто загарадзіў нам шлях да пeратварэньня польск. школы ў беларускую.

(*с. Гарадзілава, Ашмянскага пав.*).

Ня ўсё і там добра, гдзе і маўчаць. Ня лепш і нам жылося, чым і нашым братом, але мы маўчалі і цярпелі, сколькі маглі. Цяпер маўчаць стала і нам немагчыма, бо ўзяло за жывое, біцьцё і насьмешка роўна баліць: як ад першага баліць цела, так ад другога баліць сэрца. А над намі наш п. войт гм. Палачанскае, м. Леган з сваім сэкрэтаром стварылі насьмешку, але, апроч насьмешкі, яшчэ вялікую крыўду, бо яны гэтым загарадзілі нам шлях да таго, каб вучыць нашых дзязей у роднай мове. Сколькі разоў ад 6 сакавіка да 20-га мы прасілі свайго войта сьцьвердзіць нашы ўласныя подпісы на дэклярацыях аб жаданьні беларускае школы, але войт ні сёе ні тое, от, абы час марнаваць, толькі адно адказ, што яшчэ ня мае ад старосты такіх распаражэньняў, „як будзе прыслана (казаў войт), тагды сьцьвержду". Мы яму і гаварылі. Чакалі мы яму ад 8 да 20 сакавіка. 21—22/III пацягнуліся мы да гміны наконта гэтае справы, але войта дома не засталі. Думалася, што яшчэ пасьпеем зацьвердзіць, але вышла іначай. Як сталі мы цягацца да войта, дык аж агоркла, але яго ўсё ня было дома, негдзе ўсё езьдзіў, аж 26 сакавіка яго мы засталі ў гміне, гдзе і смаліцай прысталі, каб сьцьвердзіць дэклярацыі. Праўда, стаў сьцьвярджаць, і сьцьвердзіў 5 подпісаў, а болей—хоць лопні! Як рук яму ні цалавалі,—ні за што. Галава, кажа, баліць (а відаць с пахмельлем) і часу няма, заўтра прыдзіце.

Пайшлі на другі дзень, а яго і з сьвечкай не знайсьці; так на трэці і чацьверты, і нічога не зрабілі, цяпер, значыцца, усё нашае мусіць прапала. Але войт няхай не спадзяецца, што прапала, бо мы знойдзем другі шлях да гэтага.

**Гарадзілавец.**

## Лепей позна, чым ніколі.

(*З Косаўшчыны*).

У дзень 400-летняга Скарынінскага Юбілею мы бачылі многа розных прывітаньняў Бел. Навук. Т-ву, адно пасярод гэтых прывітаньняў ня было сардэчнага прывітаньня ад нашае многа-пакутнае Косаўшчыны. Ня было афіцыяльнага, але было неафіцыяльнае. Гэтае прывітаньне сялян Косаўшчыны выявілася ў дружным змаганьні за сваю родную беларускую школу. Так, напрыклад, сяляне кожвае вёскі, там, дзе ёсьць сёньня польскія школы, бяз вынятку падалі дэклярацыі аб пeратварэньні ў чыста беларускія.—Гэта ў Косаўскай гміне. Такім парадкам ніводнага мейсца не засталося дзеля польскае школы ў Косаўскай гміне.

Вёскі, падаўшыя дэклярацыі з жаданьнем беларускае школы: Косаў на 60 дзяцей, Булагрыўда, Карошча, Дубітова, Галік, М. Галік, Мілейкі, Заполе і г. д.

Форма прыгавараў дала на Косаўс. павет 7 жаданьняў (згодна Б. Ц. Ш. Р.), а форма дэклярацыяў для аднае Косаўс. гміны— жаданьне сялян для 15-цёх беларускіх школ!!!

Гэтак вітаюць нашыя сяляне 400-тыя ўгодкі закладзінаў Скарынай друкарні ў Вільні.

Будземо спадзявацца, што гэтак сама прывітаець кожная гміна Скарынінскі юбілей, як прывітала яго Косаўская!

За ўсіх: **Мікалай Птушка.**

# Змаганьне за родную школу.

## Перасьцярога!

У вёску Астравы, Куранецкай гміны, Вялейскага павету прыбыў вывядовец (шпік) да грам. Мікалая Ляха і заявіў, што ён дэлегаваны ад Беларускага Пасольскага Клюбу, каб памагчы другому грамадзяніну Аляксею Ляху ў працы па складаньню інспэктару дэклярацыяў аб жаданьні беларускай школы.

Сяляне адразу зразумелі, што гэта быў „воўк у авечай шкуры", які зусім ня мог гаварыць пабеларуску.

Затым ён зьявіўся да солтыса в. Журыхі тэй самай гміны і запрапанаваў бацьком запоўніць застаўшыяся дэклярацыі, засьведчыць подпісы ў гміне без самых жа дэклярантаў і падаць школьнаму інспэктару; казаў, што, калі ён сам усе гэта зробіць, то з восені напэўна адчыніцца беларуская школа ў в. Журыхі. Нашчасьце яму удалося абмануць толькі трох бацькоў.

**ГРАМАДЗЯНЕ!** Не падавайцеся абману, ня верце падобным людзям, паступайце, як кажа інструкцыя Цэнтр. Бел. Шк. Рады; аб тых ці іншых надужыцьцях, запужваньнях і іншых перашкодах паведамляйце Ц. Б. Ш. Р.

## Да ведама дэклярантаў.

Школьны інспэктар Нясьвіжскага павету два разы адмовіўся прыняць ад паўнамоцніка в. Грускова, Сноўскай гм. падпісаныя і пасьведчаныя гмінаю дэклярацыі аб жаданьні беларускай мовы пасьля 31 сакавіка, кажучы, што яшчэ няма распараджэньня прымаць, хоць тэрмін і прадоўжан да 21 красавіка. Паўнамоцнік паслаў дэклярацыі па пошце.

**Рэдак.** Гэтым даводзіцца да ведама грамадзянства, што на падставе распараджэньня Мін. Рэліг. Спраў і Асьветы ад 7. I. 1925 г. § 9 можна ўнасіць у працягу цэлага школьнага году.





Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.